


# Віншуем з Калядамі, Новым годам, пачаткам новага XXI стагодзьдзя і III тысячагодзьдзя!





## Вясёлых сьвятаў!

## Падзел дзеля аб'яднаньня

**Вадзім Саранчукоў,**
*намесьнік старшыні Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту*

Гарадзенская арганізацыя Маладога Фронта дасягнула крытычнага пункту свайго разьвіцьця . Колькасьць сябраў павялічылася так моцна, што нават старэйшыя зь іх не заўсёды ведаюць адзін аднога. Сфармаваліся так званая "вярхушка" ды "нізы": першыя будуюць пляны, а другія чакаюць, што ж такога напляные кіраўніцтва. Нармальнае функцыянаваньне арганізацыі як здаровага арганізму сталася немагчымым.

Зыходзячы з гэтых пазыцыяў, дзеля таго, каб кожны шэраговы сябра арганізацыі адчуў сябе на адной пазыцыі з кіраўніцтвам, гарадзкая Рада прыняла наступную пастанову:

" Уся тэрыторыя Горадні, адпаведна з арганізацыйнымі сьпісамі сябраў, падзяляецца на 5 прыблізна роўных па памерах суполак. На некаторых тэрыторыях прызначаюцца альбо вызначаюцца з уласнае ахвоты сябры арганізацыі, адказныя за правядзеньне сходаў суполак."

Гэтаксама гарадзкая Рада пастанавіла, што структурызацыя павінна адбыцца да канца студзеня 2001 году. Пратаколы аб правядзеньні сходаў суполак павіныя быць пададзеныя ў гарадзенскую Раду МФ да 31 студзеня 2001 году. Структурызацыя – з'ява, на сёньняшнім этапе без якой нармальнае функцыянаваньне арганізацыі надалей немагчыма.

Мы павінныя вызначыцца з кожным нашым сябрам і кожны наш сябра павінен вызначыцца па сваёй пазыцыі. Толькі аб'яднаўшыся на першай прыступцы Мы прыйдзем да перамогі!

Жыве Беларусь!





# «Перамены» адбыліся па ўсёй

**У Горадні** сіламі міліцыі быў разагнаны несанкцыянаваны пікет «Пераменаў!». Акцыя пачалася 12 лістапада а 15:00 ля Дому Сувязі ў цэнтры Горадні. Удзел узяла больш за сорак чалавек з Маладога Фронту й Маладой Грамады. Удзельнікі раздавалі мінакам улёткі «Пераменаў!» і газэту «Дзіда». Праз 15 хвілін ад пачатку акцыя была спыненая міліцыянтамі. Былі арыштаваныя арганізатары: старшыня Гарадзенскага Маладога Фронту Андрэй Мялешка й намесьніца Маладой Грамады Сьвятлана Нех. Акрамя гэтага, затрымалі яшчэ 13 чалавек - усе яны былі завезеныя ў Ленінскі РАУС, дзе арыштаваныя атрымалі позвы ў суд. Усе арыштаваныя атрымалі ад 20 да 150 мінімалак штрафу, а Андрэй Мялешка, Алесь Лашкоўскі, Сьвета Нех і Андрэй Мельнікаў у дадатак суткі правялі ў ізалятары.




12 лістапада **Баранавіцкія** маладафронтаўцы ладзілі своеасаблівы несанцыянаваны пікет. На ім прысутнічалі каля 50 чалавек.

У парку, каля цэнтральнага пляцу раздавалі паветраныя шарыкі, з надпісамі "Моладзь патрабуе пераменаў", маладафрантоўскую газэту "Весьнік", сьпявалі беларускія песьні.

З прамовамі на акцыі выступілі: старшыня Баранавіцкага БНФ Алесь Пікула і старшыня Баранавіцкага Маладога Фронту Ян Навіцкі.

А напярэдадні, у ноч з 11 на 12 лістапада маладзёны вывесілі два бел-чырвона-белыя сьцягі (ува ўсходнім раёне гораду і на мосьце пры ўезьдзе ў Баранавічы). Разам із сьцягам з'явіўся плякат "Моладзь патрабуе перамен". У горадзе сьцяг быў зьняты ўжо 12 лістапада, а на мосьце ён заставаўся яшчэ 2 дні.

**У Магілёве** каля 30 сябраў маладзёвых арганізацыяў гораду ўзялі ўдзел ў рэканструкцыі абласнога драматычнага тэатру, будынку, у якім месьціцца тэатар, сёлета споўнілася 112 гадоў, цягам апошніх дзесяці ён знаходзіцца на «доўгатэрміновай» дзяржаўнай рэстаўрацыі. Маладзёвую акцыю здымала рэгіянальная тэлекампанія «Магілёў-23». А зранку 12 лістапада аказаліся залітымі фарбай мэмарыяльныя дошкі кшталту «Борцам советской власти», што віселі на будынках у цэнтры гораду.



Сябры Маладога Фронту памянялі некалькі расейскамоўных шыльдаў на крамах пры актыўнай падтрымцы адміністрацыі гандлёвых установаў.

А 16:00 у памяшканьні Магілёўскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў рамках акцыі «Пераменаў!» адбыўся турнір «Што? Дзе? Калі?». У ім удзельнічала 15 камандаў гораду - агулам больш за 200 чалавек. Турнір ладзіўся на аснове беларускай тэматыкі.

А 19:00 у мясцовым кінатэатры «Космас» была арганізаваная шырокамаштабная маладзёвая дыскатэка «Пераменаў!».

Па ўсёй **Воршы** былі расклееныя ўлёткі з інфармацыяй пра акцыю «Пераменаў!» і рэклямай такіх арганізацыяў, як МФ, ЗБС. У цэнтры Воршы 12 лістапада а 13:00 адбыўся насанкцыянаваны мітынг, у якім узялі ўдзел больш за 80 чалавек з Маладога Фронту, Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў, маладзёвых арганізацыяў «Зьвяз», «Крывіч». Падчас акцыі былі раздадзеныя буклеты й маладзёвыя выданьні «Моладзь - За!», «Залік» - агулам больш за 2000 тысячы асобнікаў.

За акцыяй назіралі некалькі асобаў з адміністрацыяў навучальных установаў гораду, а таксама «члены» БПСМ. На ўсе заклікі пікетоўцаў да апошніх памяняць БПСМ-аўскія пасьведчаньні на прызы, кіраўніцтва БПСМ сьціпла адмоўчвалася ці сарамліва адводзіла вочы...

Варта адзначыць, што гэта была першая ўласнамаладзёвая акцыя ў Воршы - падобных па масавасьці мерапрыемстваў у горадзе не праводзілася з 1991 году.

11 лістапада **ў Маладзечне** ў адной зь сярэдніх школ была арганізаваная маладзёвая дыскатэка «Пераменаў!». 12 лістапада на Цэнтральным пляцы сябрамі Маладога Фронту, Маладой Грамады й Таварыства Беларускае Мовы быў зладжаны пікет «Пераменаў!»

11 лістапада ў **Берасьці** сябры Маладога Фронту зладзілі на вул. Савецкай публічныя чытаньні вершаў клясыкаў беларускай літаратуры Адама Міцкевіча, Янкі

# Беларусі: ад Шклова да Берасьця

Купалы, Ніла Гілевіча ды інш. Па сканчэньні чытаньняў маладафронтаўцы ўсклалі вянок да помніка Адаму Міцкевічу. Кіраўнік Берасьцейскага МФ, намесьнік старшыні МФ Сяржук Бахун распавёў прысутным, у тым ліку прадстаўнікам СМІ, пра акцыю «Пераменаў!». 12 лістапада ў цэнтры Берасьця з 13:00 да 13:30 адбываўся несанкцыянаваны пікет, на якім прысутнічала больш за 20 сяброў Маладога Фронту.

**У Наваполацку** 11 лістапада адбыўся сход маладзёвых арганізацыяў (МФ, экалягічная арганізацыя «Крок Разам», Незалежны Прафзьвяз Студэнтаў, гістарычны клюб «Княжыч», мясцовае аддзяленьне «Вясны», краязнаўчы клюб «Валацугі»). Быў прыняты зварот «Моладзь прагне пераменаў!», таксама было прынята пастанова аб выданьні агульнамаладзёвай Наваполацкай газэты, першы нумар якое, прысьвечаны акцыі «Пераменаў!», хутка чакаецца.

У ноч з 11 на 12 лістапада у цэнтры **Рэчыцы** на пад'ёмным кране адной з будоўляў зьявіўся вялікі бел-чырвона-белы сьцяг. Па ўсім горадзе былі зробленыя надпісы «Пераменаў!», «Жыве Беларусь!».

На будынку **Сьветлагорскага** Індустрыяльнага тэхнікуму 11 лістапада быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг, які зьнялі літаральна празь 5 хвілін. Па горадзе зьявіліся графіці «Моладзь прагне пераменаў!»

Зранку 12 лістапада па ўсім **Бабруйску** зьявілася больш за 100 надпісаў «Моладзь прагне пераменаў!», «Пераменаў!».

На самых высокіх будынках у цэнтры **Жодзіна** зранку 12 лістапада лунала 2 бел-чырвона-белых сьцяга.

У 11.00 12 лістапада ў



**Коханаве** (Віцебская вобл.) сябры МФ і «Краю» раздавалі на Цэнтральным пляцы газэту «Золак» з інфармацыяй пра акцыю «Пераменаў».

У **Слуцку** былі распаўсюджаныя ўлёткі з прапановай да «членаў» БПСМ выкінуць свае пасьведчаньні ці абмяняць іх на прызы.

Зраніцы 12 лістапада сьцены **ў Барысаве** былі расьпісаныя заклікамі «Пераменаў!».Аб 11 гадзіне на Цэнтральнай плошчы гораду адбыўся несанкцыянаваны пікет. Удзел у ім узялі больш за 10 чалавек з Маладой Грамады. Празь пяць хвілін ад пачатку на месца правядзеньне пікету прыехалі міліцэйскія машыны. За трыманьне ў руках плякатаў ўзброенымі міліцыянтамі былі затрыманыя непаўнагадовыя Міхась Кузьняцоў, Алена й Марына Ясюк.

У старажытным культурным цэнтры краіны горадзе **Нясьвіжы** 12 лістапада адбылася маладзёвая вечарына, у якой удзельнічалі дзясяткі маладых людзей. Некалькі прысутных «членаў» БПСМ прынесьлі і здалі свае пасьведчаньні.

Пікеты ў рамках акцыі «Пераменаў» былі забароненыя ўладамі **Сьветлагорску й Пінску**.

Улады **Віцебску** забаранілі прадстаўнікам Кааліцыі праводзіць 12 лістапада маладзёвую акцыю «Пераменаў!». У рамках акцыі мусілі адбыцца шэсьце й мітынг. У сувязі з гэтым маладзёвыя арганізацыі прынялі адмысловую заяву.

**У Бялынічах** (Магілёўская вобл.) 12 лістапада а 18:00 пачаўся канцэрт, прымеркаваны да акцыі «Пераменаў!», з удзелам магілёўскіх бардаў і бялыніцкага рок-гурта.

Увечары акцыі адбліся яшчэ ў некалькіх гарадох : **Гомлі, Віцебску, Шклове, Радашковічах, Крычаве.**

12 лістапада каля 60 чалавек сабраліся на прэзэнтацыю зборніка "Паэтычная Слонімшчына", у які ўвайшлі вершы і ўкладаньні, адабраныя на спаборы маладых слонімскіх літаратараў "Беларусь – мая Радзіма".

Імпрэза адбывалася удзень, калі праходзіла агульнарэспубліканская акцыя "Моладзь патрабуе пераменаў", таму на ёй узяў слова старшыня слонімскага аб'яднаньня "Ветразь" Алесь Масюк.

Ён заклікаў слонімцаў змагацца за перамены ў іх горадзе й найперш ажывіць творчае жыцьцё. Алесь прапанаваў стварыць клюб, які б аб'яднаў творчых людзей Слонімшчыны. Першы сбор клюбу плянуецца прызначыць на 17 сьнежня .

***БАРЦ***

# «Дзяды» такога ня памятаюць

*Сяргей Антусевіч*

1 лістапада 2000 году Гарадзенскія арганізацыі БНФ і Маладога Фронту адзначалі «Дзяды». Акцыя праходзіла ў два этапы. Удзень ушаноўвалі памяць продкаў і сяброў на старых праваслаўных і каталіцкіх могілках ( Э.Ажэшкі, маці М.Багдановіча — Марыі Багдановіч і інш.), і новых могілках (А.Карпюк, Ю.Астроўскі, У.Шурпа, сяброў БНФ).

Увечары, а 17 гадзіне, больш за 40 чалавек сабралося каля знаку паўстанцам 1863-64 гг. Запаліўшы зьнічкі, усклалі кветкі, аддалі даніну павагі сваім слаўным продкам. Пасьля гэтага людзі з запаленымі зьнічкамі рушылі па ходніку ў накірунку Гарадзенскага ўнівэрсытэту. Там ля бюсту Янку Купалу, падчас ускладаньня кветак, грамада была акружаная супрацоўнікамі міліцыі і АМАПу. Быў аддадзены загад хапаць усіх з нацыянальнай сымболікай і сьцягамі. Падчас затрыманьня былі паваленыя на зямлю і зьбітыя намесьнік старшыні Гарадзенскай арганізацыі БНФ Алесь Міхальчык, сябра Рады Мікола Воран, актывіст БНФ Пятро Анісімовіч. Варанкі запаўнялі на максымум людзьмі і адвозілі ў Ленінскі РАУС. Такім чынам, усяго было затрымана 23 чалавекі, у іх ліку ўсё кіраўніцтва Гарадзенскай арганізацыі БНФ.

У Ленінскім РАУСе затрыманых абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця. Усе яныадмовіліся падпісываць пратаколы. Двом удзельнікам акцыі уручылі позвы ў суд.

Першыя паседжаньні судоў адбыліся 2 лістапада над Пятром Анісімовічам а 16 гадзіне, і над Міколам Воранам а 17 гадзіне, іх абвінавачваюць у аказаньні супраціву работнікам міліцыі.

Пасьля таго, як былі складзеныя пратаколы усіх затрыманых праз 3 гадзіны выпусьцілі. Акцыя працягнулася там, дзе яна была гвалтоўна спыненая. Каля памятных шыльдаў і помнікаў былі ускладзеныя кветкі і пакінутыя запаленыя зьнічкі. Удзельнікі ўшанавалі памяць Янкі Купалы, Элізы Ажэшкі, Максіма Багдановіча, Рыгора Шырмы, Адама Міцкевіча, Вітаўта Вялікага, Тадэвуша Касьцюшкі. Закончылася акцыя, як і планавалася, каля Каложскай царквы каля знаку «Пагоня на Грунвальд».



**Удзельнікі акцыі ля знаку паўстанцам Каліноўскага. Чыгуначны вакзал**



**Тры гадзіны ў РАУСе не сапсавалі настрою**

9 лістапада адбыліся працягі судовых працэсаў над удзельнікамі Дзядоў, якія адбываліся 1-лістапада. Суды праходзілі над дзьвума ўдзельнікамі:Пятром Анісімовічам ды Міколам Воранам, якіх абвінавацілі ўва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсьці ды непадпарадкаваньні міліцыі. Суды цягнуліся даволі працяглы час: распачаўшыся а 14-й , яны скончыліся прыкладна а 18-й. Абаронцамі былі прадстаўнікі Беларускага Гэльсінскага Камітэта.

Судзьдзя Зьміцер Ярашэвіч а пачатку на сёмую вынес наступныя прысуды: Пятра Анісімовіча апраўдаць, а Міколе Ворану даць штраф у памеры аднога мінімальнага заробка за дадатковае абвінавачаньне за тое, што ён быццам лаяўся матам.

Усе затрыманыя на Дзяды, а гэта 23 чалавекі падалі заявы аб незаконным затрыманьні на імя пракурора Ленінскага раёна, у пракуратуру Гарадзенскае вобласьці, у праваабарончы цэнтар"Вясна", у прадстаўніцтва АБСЕ на Беларусі.

Пракуратурай было праведзена сьледства, па выніках якога яна прызнала удзел заяўнікаў ў несанкцыянаваным шэсьці. Застаецца пытаньне, чаму не адмененае рашэньне суда, які прызнаў незаконнымі дзеяньні з боку міліцыі і апраўдаў ўдзельнікаў «Дзядоў».

# Рэгіёны дыхаюць напоўніцу

*Алеся Сідлярэвіч*
*Конрад Міхельсон*

## Ліда

**22 сьнежня адбылася прэзэнтацыя кнігі з сэрыі "беларускага кнігазбору", прысьвечанай Ларысе Геніюш. Праводзіў яе літаратар Міхась Скобла.**

У Лідзе пачаў выходзіць новы маладзёвы бюлетэнь "Lida Exit".

Выйшла ўжо 2 яго нумары (10 верасьня і 23 кастрычніка) і рыхтуецца да друку трэці. У выданьні друкуюцца матэрыялы пра музыку , жыцьцё разнастайных маладзёвых асяродкаў,сучаснае мастацтва, а таксама шмат досьціпаў і сьцёбных гісторыяў. Зарганізавалі дадзенае выданьне Зьміцер Шах і Міхась Неруш. Паводле словаў Міхася Неруша, іх мэтаю зьяўляецца асьвятленьне жыцьця моладзі, як у іх родным горадзе Лідзе, так і ўва ўсім сьвеце. А найвышэйшай адзнакай для іх будзе, калі "нейкая старэнькая бабулька скажа пагледзеўшы на іх бюлетэнь: "Якая гадасьць!».

**9-10 сьнежня** Асамблея Неўрадавых арганізацый і цэнтар "Гэнэрацыя" ладзілі ў Лідзе сэмінар па Правах чалавека, прымеркаваны да 52-іх угодкаў прыняцьця ААН "Дэкларацыі правоў чалавека".

## Слонім

**Сябры маладзёвага аб'яднаньня "Ветразь" пачалі праводзіць "Шоў Беларушчыны" у школках Слонімшыны. Беларускія віктарыны ўжо ладзіліся ў гімназіі №1 і школе №8.**

## Баранавічы

**27 лістапада Баранавіцкі Малады Фронт ладзіў канцэрт гурта "NRM". Разам зь вядомымі музыкамі на канцэрце выступалі мясцовыя гурты "Млечны шлях" і "Бровар". на канцэрт сабралося каля 400 чалавек. 150 квіткоў МФ распаўсюдзіў бясплатна сярод сваіх прыхільнікаў.**

**10 сьнежня** ў Баранавічах таксама адзначаўся Дзень правоў чалавека.

Праваабарончы цэнтар "Вясна", БНФ і Малады Фронт ладзілі ў парку 30-годзьдзя ВЛКСМ пікет, на якім раздавалі дэкларацыю правоў чалавека, газэты "Навіны БНФ" ды "Права на волю".

## Берасьце

**28 кастрычніка** футбольная каманда Берасьцейскага МФ "Пагоня" сыграла з лідарам II гарадзской футбольнай лігі, камандаю "Альянс", у турніры на прызы "Брэсцкага кур'ера".

"Пагоня" прайграла з лікам 6 : 8.

Каманда МФ заявіла пра ўдзел у гарадзскім міні-футбольным турніры "Эліт – Ліга", які арганізуецца спартовым клюбам "Аматар". У турніры удзельнічала 9 камандаў. Паводле вынікаў спаборніцтва "Пагоня" заняла 8 месца у турніры.

**11 лістапада** Берасьцейскі МФ адзначыў гадавіну сьмерці Адама Міцкевіча. На цэнтральнай вуліцы гораду – Савецкай - маладзёны чыталі вершы паэта. Затым яны рушылі з кветкамі і бел-чырвона-белымі сьцяжкамі рушылі да помніка Міцкевічу, дзе запалілі зьнічкі ў ягоную памяць.

**4 сьнежня** дасьледча - аналітычны клюб "Дзедзіч" у Берасьцейскім Унівэрсытэцэ ладзіў імрэзу, прысьвечаную юбілею свайго існаваньня.

Напачатку сьнежня выйшаў доўгачаканы 2-гі нумар газэты "Моладзевая Думка" Берасьцейскага Маладога Фронту. У нумары -спорт і аналітыка , навіны і камэнтары ды шмат чаго іншага.

**4 сьнежня** берасьцейскі дасьледча-аналітычны клюб "Дзедзіч" ладзіў вечарыну, прысьвечаную Уладзімеру Караткевічу ў "Дыскусійным клюбе"Берасьцейскага Дзяржаўнага Універсітэта. Адсьвяткаваць юбілей свайго існаваньня "Дзедзічам"забаранілі. Таму яны былі вымушаны абмежавацца дыскатэкай. Пасьля яе з бел-чырвона-белымсьцягам і воклічамі "Жыве Беларусь!" берасьцейскія маладзёны прайшлі па цантральным вуліцам гораду.

# АДДАЙЦЕ НАШЫЯ ПРАВЫ !

**9 снежня каля гандлевага дома «Неман» у Гродна невядомыя распаўсюджвалі ўлеткі з заклікамі да студэнтаў яднацца, а таксама з інфармацыяй, якая датычыла правоў чалавека. Яны павесілі на сцэны 4 плакаты з надпісамі на рускай і беларускай мове «Студэнты супраць дыктатуры», «Аддайце нашыя правы» і інш. У абвінавачванню за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце затрымана пяць чалавек, складзена два пратакола.**

У ліку затрыманых - Святлана Нех, намеснік старшыні арганізацыі «Маладая Грамада», якая была раней асуджана за удзел у акцыі кааліцыі «Пераменаў!» 12 лістапада. Таксама быў затрыманы грамадзянін рэспублікі Польшча Петр Цішэўскі, карэспандэнтка газеты «Пагоня» Алеся Сідлярэвіч, кіраўнік прафсаюза студэнтаў Дзяніс Міхальчык і яшчэ адзін чалавек, асобу якога нам выявіць не ўдалося.

Пятру Цішэўскаму пагражалі дэпартацыяй у Польшчу, ён плануе звярнуцца праз консула РП са скаргай на міліцыю, супрацоўнікі якой, засвяцілі пленку ў фотаапараце.

У адным з апошніх нумароў адной дзяржаўнай газеты з нагоды гадавіны прыняцця дэкларацыі правоў чалавека распавядаецца, якога прагрэсу дасягнуў урад у сферы забеспячэння правоў чалавека. А ці можам мы гаворыць увогуле аб наяўнасці правоў чалавека ў Беларусі, калі супрацоўнікі міліцыі адкрыта паграджаюць ні ў чым не павінным людзям, спачатку заламваюць рукі, а потым пытаюцца пра дакументы? Калі тое, што чалавек раней арганізоўваў пікеты, служыць падставай для затрымання? Калі не першы раз за моладзю сочаць «людзі ў цывільным»? Калі ў рэспубліцы прападаюць вядомыя людзі…

***Д.Ягораў, «БІ»***

***P.S.*** 10 сьнежня з нагоды 52-й гадавіны прыняцьця Ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека адбыліся тры пікеты, якія ладзілі БНФ «Адраджэньне і Маладая грамада. Інцыдэнтаў не было.





# Высоцкі вінаваціць дзяўчат... у слабасьці гарадзенскіх хлопцаў

Алеся Тарашкевіч

У кастрычніку ў Горадню завітаў лідар нелегальнай Беларускай партыі Свабоды Сяржук Высоцкі. Адной з мэтаў паездкі была сустрэча з найбольш радыкальна настроенай апазыцыйнай моладзю нашага гораду. Балазе, ў нас пакуль што няма філіі БПС. Паслухаць, што будзе распавядаць бэпээсавец, прыйшлі ня толькі маладафрантоўцы, але і краёўцы, анархісты і сябры іншых арганізацыяў.

- Гарадзенцы - вельмі мягкія людзі. Відаць таму, што ў вашым горадзе вельмі шмат прыгожых дзяўчат, і гэта негатыўна ўплывае на мужчынаў, робіць іх менш валявымі, - падзяліўся ўражаньнем пра Горадню прадстаўнік БПС. - Мужчына павінен быць змагаром.

- На жаль, Горадня сёньня гадуе кадры для "Русского национального единства", -выказаў занепакоенасьць сп.Высоцкі. Маўляў, у Менску і Гомлі РНЕшнікамі кіруюць гарадзенцы. У сталіцы, праўда, цэлы аддзел РНЕ перайшоў у БПС.

Сп.Высоцкі даводзіў, што Беларусі сёньня патрэбная радыкальная апазіцыя, і ня ў форме хлопчыкаў для біцьця, а на падставе супрацоўніцтва.

- Нам мала ахоўваць лідараў апазыцыі ці езьдзіць у лес, - казаў лідар БПС, - мы палітычная партыя, якая ўдзельнічала ў выбарах, і мы вучым людзей найперш быць духоўнымі змагарамі. Мы праводзім пікеты, езьдзім па рэгіёнах і сустракаемся з моладзьдзю.



Сяржук Высоцкі

У аповядзе пра сваю арганізацыю Сяржук Высоцкі зазначыў, што нягледзячы на правакацыйныя чуткі пра раскол, БПС налічвае сёньня некалькі сотняў маладых людзей, пераважна студэнцкага веку, якія кіруюцца нацыянальна-вызвольнай ідэяй. Партыя не атрымала ніводнага замежнага гранту - існуе на сяброўскія складкі і ахвяраваньні беларускіх бізнэсоўцаў. Сваёй мэтай сябры БПС бачаць пабудову моцнай, незалежнай Беларусі. Праўда, пакуль у Беларусі пануе крымінальна-акупацыйны рэжым, партыя носіць разбуральны характар - ёсьць час зьбіраць і кідаць камяні. Сёньня час кідаць.

Бэпэсаўцаў часта лічаць "баявікамі", але, насамрэч, яны проста вымушаныя гартаваць мускулы, каб умець абараніць і сябе, і сваю краіну, і прыгожых беларускіх жанчынаў. Сп.Высоцкі, напрыклад, ніколі не насіў камуфляж ці берцы, бо лічыць, што салдатам можна быць у марынарцы й гальштуку. Дарэчы, Сяржук па адукацыі - гісторык-палітоляг, а ў 96-м годзе ён быў самым маладым кандыдатам у дэпутаты.

- Я шакаваны той цеплынёй, зь якой мяне сустрэлі ў Горадні, - падзяліўся ўражаньнямі сп.Высоцкі напрыканцы сустрэчы. - Відавочна, што за апошнія тры гады тут вырасла новая кагорта маладых людзей, больш рашучых і валявых. Яны ўжо перараслі дарослых палітыкаў.

# Крыж прастаяў два дні

**У ночы з 28 на 29 лістапада ў Горадні, на месцы ўзарванай бальшавікамі ў 1961 годзе Фары Вітаўта невядомыя гарадзенцы ўсталявалі 5-мэтровы драўляны крыж.**

Надпіс на крыжы сьведчыў, што менавіта "на гэтым месцы ў 1961 годзе была ўзарваная Святыня Зямлі Нашай - Фара Вітаўта , помнік архітэктуры XIV-XVI стагоддзя.Варварства здейснена камуністычным рэжымам. Мы верым, што крыжы касцёла ўзнясуцца над нашым горадам."

Гэты крыж быў пастаўлены менавіта ў той дзень, калі быў узарваны 39 гадоў таму сам касцёл.

29 лістапада крыж быў асьвечаны каталіцкім сьвятаром зь Фарнага касцёлу і адбылося набажэнства па ўзарваным касьцёле . Пад час набажэнства маладзенамі раздаваліся буклеты "Памяць пра Фару Вітаўта", у якіх распавядалася пра гісторыю касьцёла, пра ягоныя перабудовы і той дзень калі касьцёл быў узарваны. Але крыжу не было наканавана прастаяць доўга.



29 лістапада. Назаўтра крыж будзе зьнішчаны ўладамі

Увечары 30 лістапада невядовымі барбарамі быў вырваны зь зямлі і вывезены ў невядомым напрамку.

Гэта была ўжо ня першая спроба ўсталяваць на дадзеным месцы помнік ці крыж. Да гэтага часу папярэднія шыльды, крыжы, невялікія помнічкі таксама зьнішчаліся. Але цяпер вернікамі была накіравана скарга да гарадскіх уладаў, аб тым, што быў зьнішчаны ўжо асьвечаны крыж.

*Андрэй Мялешка*

# СУПРАЦЬ СНІДУ

***3 сьнежня ля Дому Сувязі «Малады Фронт» сумесна з «Маладой Грамадой» ладзіў антысьнідаўскі пікет. Пікет быў прымеркаваны Сусьветнаму Дню барацьбы са СНІДам.***

Занепакоенасьць сытуацыяй вакол чумы XX веку на Беларусі часткова тлумачыцца новымі ўспышкамі хваробы. Так рэкардсмэнам у гэтым пляне зьяўляецца Сьветлагорск, дзе жывуць 1387 з 3188 хворых, якія былі выяўленыя за гэты год. На Гарадзеншчыне зафіксавана пакуль 108 выпадкаў хваробы, дзе 85 зь якіх прыходзіцца на самы беларускі горад Ліду. У самым абласным цэнтры зафіксавана 14 носьбітаў ВІЧ, але як сьцвярджаюць спэцыялісты сапраўдная колькасьць хворых дзесьці ў дзесяць разоў больш.



Шчыльней шэрагі супраць СНІДу!

Спроба ладзіць інфармацыйны пікет з гэтай нагоды і ў гэты дзень была другой. У мінулым годзе Гарадзенскі Малады Фронт атрымаў адмову з гарвыканкаму на яго правядзеньне.

Пікет атрымаўся апалітычны, і толькі па сьцягох можна было зразумець, хто арганізуе акцыю. Плякаты з заклікамі завязаць з наркатой ці карыстацца контрацэптывамі, былі прапанаваныя арганізатарам у Гарадзенскім абласным цэнтры прафіляктыкі СНІДу. Людзі, што выходзілі тралейбусаў, адразу атрымлівалі інфармацыйныя ўлёткі ці інструкцыі па карыстаньню прэзэрватывамі. Колькасьці раздаткавага матэрыялу хапіла толькі на паўгадзіны пікету.

Асабліва актыўна рэагавалі на пікет асобы пэнсійнага веку. Адна такая асоба, быцам натрэнаваны маёр міліцыі, заклікала пікетоўцаў разысьціся. Другая бабуля, начытаўшыся газэтаў кшталту «Догадки и открытия», прыводзіла свае доказы таго, што СНІД — гэта выдумка. Нехта казаў «Малайцы!», нехта моўчкі ўзіраўся на плякаты.

Таксама цікава людзі рэагавалі на прапанаваныя старшынём «Маладога Фронту» прэзэрватывы. Не разумеючы, што патрэбна чалавеку, апранутаму як чачэнскі баявік, мінакі пачыналі рухацца шпарчэй, і толькі пасьля закліку «Бярэце!», гумовы выраб трапляў у патрэбныя рукі.

Міліцыянты, што шукалі парушэньняў у дзеяньнях моладзі, сумна стаялі ў дзесяці мэтрах ад месца пікету. Парушэньняў не было.

Пратрымаўшыся толькі гадзіну, замест дазволеных дзьвюх, зьмерзлыя пікетоўцы разышліся.

*І.Скарына*



Гарадзенскі Малады Фронт зьбіраецца штočацьвер і нядзелю а 19.30 па адрасе: вул. К.Маркса, 11, тэл. 72-11-83




### ЗЬМЯКЧЫЛІСЯ ЎМОВЫ СТУДЭНЦКАГА РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ

**Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў атрымала Пастанову Савету Міністраў, якая датычыцца разьмеркаваньня выпускнікоў вышэйшых навучальных установаў.**

У пастанове гаворыцца, што выпускнік мае права зьмяняць наймальніка альбо звальняцца па абставінах (напрыклад, з прычыны паступленьня ў асьпірантуру). Гэтая пастанова была накіраваная ў Міністэрства адукацыі на разгляд з патрабаваньнем прывесьці ў адпаведнасьць зь ёй нарматыўныя акты. Паводле словаў старшыні ЗБС Крысьціны Сідун, пастанова толькі пацьвярджае практыку, якая існавала дэ-факта. Між тым прымусовае разьмеркаваньне застаецца. Так Савет Міністраў вырашыў пад ціскам ЗБСу і ягонай 2-гадовай барацьбы за права студэнтаў самім уладкоўвацца на працу.

**БАРЦ**



ДЗІДА

# Гонар нацыі

*У.Вой*

**Рыгор Клімовіч (3.10.1924 – 1.07.2000) – вядомы беларускі дысыдэнт, кіраўнік нарыльскага паўстаньня, аўтар гімну паўстаньня і кнігі "Канец Гарлага". Яго імя вядомае на Ўкраіне, у Расеі, пра яго зьняты фільм, але на Бацькаўшчыне ён застаецца невядомым. Мэта гэтага невялічкага артыкулу – пазнаёміць зь ім чытачоў "Дзіды".**

Нарадзіўся сп.Клімовіч у вёсцы Шляхецкая Ваколіца (сёньня Навацярэшкаўцы) пад Гомлем. Поўдзень Гомельшчыны, дзякуючы партызанам атамана Галакі, да 1929 году не ведаў Савецкае ўлады, бо зямля сапраўды гарэла пад нагамі акупантаў. Ізь сьмерцяй Галакі пачалася савецкая ўлада, калектывізацыя, рэпрэсіі...

Першае знаёмства з савецкай уладай адбылося хутка: сям'ю дзядзькі Клімовіча вывезьлі на Салаўкі, адкуль ніхто не вярнуўся.

З 1933 году сям'я Клімовічаў пачала галадаць, і, каб вырвацца із калгасу, Рыгор пайшоў у школу, якая была беларускай, але пасьля арышту сьвядомых настаўнікаў ператварылася ў расейскую...

Па сканчэньні школы Клімовіч паступае ў Гомельскі індустрыяльна-пэдагагічны тэхнікум, дзе вучыўся да пачатку вайны (тэхнікум быў эвакуяваны ў Расею).

Каб працягваць навуку, ён вымушаны быў дабірацца да Саратаву, дзе месьціўся тэхнікум. Падарожжа зацягнулася на паўгады.

Напачатку 1943 году Клімовіча разам зь сябрамі набралі ў войска. Таму ён падаўся ў Маскву, дзе быў арыштаваны па абвінавачаньню ў забойстве камандзера партызанскага атраду, што дзейнічаў ля Шляхецкае Ваколіцы. "Суду аніякага небыло – узгадвае Клімовіч – мяне выклікалі да сьледчага й зачыталі прысуд". Але ён упарта адмаўляўся яго падпісываць,- гэта ўратавала Рыгора ад сьмерці.

Спачатку Клімовіча накіравалі ў адзін із сьвярдлоўскіх лягероў, дзе ён застаўся ў жывых толькі дзякуючы земляком Сьвірскаму й Вахрамееву (якія былі інжынэрамі), якія яго падкармлівалі. Пасьля быў невенскі лягер, дзе ўмовы былі ня лепшымі: у адным ангары месьцілася каля 6 тысячаў чалавек. Зь Невельскага лягеру яго накіравалі ў "вораўскую камандзіроўку" – у Благавешчанскі лягер, што складаўся з крымінальнікаў. Жыцьцё Клімовічу ўратаваў яго-ны "выступ" (перад пракурорам, у прысутнасьці зэкаў) у абарону правоў вязняў. За гэты час Рыгор напісаў некалькі дзесяткаў антысталінскіх вершаў. Калі гэта выкрыла лягерная адміністрацыя, яго адразу ж накіравалі ў нарыльскі Гарлаг (лягер асабліва строгага рэжыму, "лягер сьмерці").

Усімі будаўнічымі працамі кіравалі пераважна інжынэры–беларусы, яны і паспрыялі арганізацыі беларускіх супольнасьцяў, ў якіх не апошняе месца адыгрываў Рыгор Клімовіч. Ён сваёй дзейнасьцю ўратаваў дзясяткі людзей.

Напрыклад, калі ішла будоўля медзеплавільнага заводу, то шмат людзе не маглі выкананаць плян (з-за фізычнае слабасьці), што выклікала да іх жорскае стаўленьне з боку адміністрацыі. Тады Клімовіча надзялілі вялікімі паўнамоцтвамі, што дапамагло прымусіць бугальтэрыю даваць добрыя паказьнікі. Гэтае "мухлярства" і ўратавала сотню людзей ад сьмерці.

Пуск гэтага заводу быў прымеркаваны да дня народзінаў Сталіна. Тады каля сотні вязняў адмовілася рабіць "падарунак", за што і былі пакараныя ўтрыманьнем у ізалятары. Арганізатараў гэтае акцыі (сярод іх і Клімовіча) аддалі пад суд, Рыгору прысудзілі яшчэ 10 год.

Пасьля сьмерці Сталіна рэжым у Гарлягу стаў яшчэ больш жорскім (ахоўнікі атрымалі права растрэльваць вязняў на месцы, калі палічаць гэта патрэбным). Гэткім чынам за вясну было забіта 13 чалавек. Апошняй кропляй стаў растрэл 25-га траўня: чатыры вязьні былі забітыя толькі за тое, што радасна павіталіся зь калёнаю кабет, якія праходзілі побач.

Пачуўшы вестку пра гэта, вязьні імгненна спынілі працу, над Гарлагам пачалі ўздымацца чорныя з чырвоным пасам сьцягі свабоды, а раніцаю 26-га траўня вязьні пачалі куць шаблі.

Кіраўнікамі нацыянальных грамадаў быў складзены ліст патрабаваньняў. Асноўнымі былі рэабілітацыя іншадумцаў, ахвяраў вайны, прыезд камісіі ЦК КПСС.

*(працяг ў наступным нумары)*

## Студэнтаў вучаць самакіраванню

15-16 лістапада ў памяшканні Аб'яднання маладых навукоўцаў «Віт» адбыўся семінар па студэнцкаму самакіраванню.

Ён быў зарганізаваны Нацыянальным Звязам студэнтаў Галандыі сумесна з Задзіночаннем Беларускіх Студэнтаў у рамках праекта, накіраванага на падтрымку самакіравання студэнтаў Беларусі, Гародня павінна стаць адным з 10 гарадоў (Віцебск, Менск, Магілёў, Гомель, Горкі, Берасце,Бабруйск, Наваполацк, Воранава), у якіх арганізатары стварылі ініцыятыўныя групы.

У яе ўвойдуць студэнты, якія павінны будуць падрыхтаваць выбары ў Студэнцкую Арганізацыю Самакіравання (КАС), распрацаваць яе структуру і займацца рэкламаванем самакіравання.

У сакавіку ці лютым 2001 года арганізатары плануюць правесці міжнародную канферэнцыю «Перспектывы Студэнцкага Самакіравання ў Беларускіх Навучальных Установах». А ў красавіку 10 самых актыўных удзельнікаў семінараў з вышэйназваных гарадоў паедуць на двухтыднёвую стажыроўку ў Галандыю. У верасні 2001 года, як плануюць арганізатары, павінны адбыцца выбары ў САС.

- Студэнскае самакіраванне - неад'емная частка навучальных установаў дэмакратычных краінаў. Дапамагчы нашым студэнтам усвядоміць перавагі і магчымасці дэмакратыі, аб'яднаць незалежныя студэнскія арганізацыі ў адзін голас ды забяспечыць удзел беларускіх студэнтаў у працэсе прыняцця рашэнняў. Наконт таго, якой мусіць быць установа, дзе яны вучацца - вось галоўныя мэты нашага праекта, сцвярджае адзін з арганізатараў Сяргей Залеўскі.

*А.Сідлярэвіч*

# Тры чарапахі

*Юлія Дарашкевіч*

***24 лістапада гурт NRM прэзэнтаваў гарадзенцам свой новы альбом «Тры чарапахі».***

***Слухачы не задаволіліся мяккімі крэсламі Палацу хімікаў і амаль дзьве гадзіны «атрываліся» па поўнай праграме ля сцэны і ў праходах. Нешматлікая міліцыя моладзі не перашкаджала. Аднаго хлопца, праўда, вывелі - рызыкнуў дастаць бел-чырвона-белы сцяг.***

***Аншлагу не было - амаль траціна квіткоў засталася непрададзенай. Затое энэрэмаўцаў выклікалі на «біс» двойчы, а самыя ныстырныя фэны хвілінаў дваццаць пасьля канцэрту штурмавалі музыкаў з мэтай атрыманьня аўтографаў.***

Гурт NRM лічыць, што Беларусь трымаецца на трох чарапахах. Так было спрадвеку, і ніхто ўжо ня можа сказаць дакладна, чаму яно так. Затое дакладна вядома, што "Тры чарапахі" - гэта яшчэ і назва новага альбому NRM, які ў гэтыя выходныя ўжо зьявіўся ў продажу. А гарадзенцы слухалі як старыя, так і новыя песьні гурта ў пятніцу, у Палацы культуры хімікаў. Канцэрт зарганізавала Гарадзенская абласная філармонія.

На пачатку праграмы саліст гурта Лявон Вольскі ад імя адміністрацыі Палаца папрасіў усіх прысутных паводзіць сябе прыстойна - не сядаць на сьпінкі крэслаў, не ўскокваць з месцаў, не запальваць зьнічкі і цалавацца толькі ў адведзеных для гэтага месцах.

**Алег Дземідовіч (Алезіс)**, *бубнач NRM:*

- Вельмі прыемна, што публіка першыя песьні слухала, сядзячы спакойна на месцах. Гэта сьведчыць пра тое, што людзі цікавяцца не толькі музыкай, але і тэкстамі.

Першыя песьні публіка насамрэч слухала спакойна, але на "Одзірыдзідзіне" нэрвы фанаў здалі - натоўп рушыў у праходы, да сцэны. З дзесятак міліцыянтаў толькі прыціснуліся да сьценаў, бо ўсадзіць на месцы падлеткаў, якія вішчалі, трэслі галовамі і скакалі, было немагчыма. Праўда, аднаго хлопца, які рызыкнуў выцягнуць бел-чырвона-белы сьцяг, усё ж такі вывялі з залі.

Лявон Вольскі сьпяваў стоячы, седзячы і лежачы.

Пасьля амаль двухгадзіннага канцэрту публіка выклікала сваіх куміраў на біс ажно двойчы. Пасьля некалькі дзесяткаў чалавек адмовіліся пакінуць залю, патрабуючы аўтографаў. Скандавалі "Жыве Беларусь!", "Жыве NRM!", "NRM - чэмпіён!" і "Нёман - чэмпіён!".

Самі энэрэмаўцы засталіся задаволенымі канцэртам, гукам і пляцоўкай (дарэчы менавіта на сцэне "Хімікаў" у 1988 годзе адбыўся самы першы ў Гародні канцэрт NRM, тады яшчэ "Мроі").

Паўтысячы аматараў NRM сапраўды паводзілі сябе адносна выхавана - канцэрт абыйшоўся без эксцэсаў, моцна п'яных не было, мяккія крэслы Палаца культуры хімікаў засталіся непашкоджанымі. Фэны беларускамоўнага року пакінулі пасьля сябе толькі вялізную колькасьць шалупіньня ад семак на апляванай падлозе.

NRM.
HTTP://NRM.HOME.BY

# Чым займаюцца міліцыянты ўвечары,
## або як я хадзіў на брэйн-рынг

*І.Скарына*

***У адной з гарадзенскіх школ настаўнікі расейскай мовы ладзілі спаборы па валоданьню "вілікім і магучым языком" паміж дзьвюма дзявятымі клясамі. Нічога добрага з гэтага - як заўсёды - не атрымалася.***

Даведаўшыся пра аднолькава дрэннае валоданьне літаратурнай расейскай мовай, спаборцы выходзілі з будынку школы. Адразу ўзьніклі прапановы пайсьці па дамох ці нават на піва. Недзе ў ста мэтрах ад школы нехта запусьціў салют, але гэта ня перашкодзіла навучэнцам павольна крочыць у накірунку бліжэйшай крамы. Перашкодзіла іншае... Раптам ззаду пачулася знаёмае да болю ў сэрцы "стаяначка!". Памылкі быць не магло: нарад міліцыі набліжаўся да "мовазнаўцаў".

"Што ўзрываем?! ", — спытаў "правадыр" нараду, дапасаваўшы да пытаньня некалькі нелітаратурных словаў.

"Нічэво", — разам адказалі навучэнцы і спыніліся.

Пачуўшы такі адказ, міліцыянт распачаў свой пяціхвілінны маналёг, у якім па паняцьцях распавёў пра цяжкае жыцьцё простага міліцыянта (цытаваць ня маю маральнага права, бо гэты артыкул можа патрапіць да малых дзетак). Падчас прамовы, другі (ці трэці?) міліцыянт, які дагэтуль стаяў за сьпінай "правадыра", цікавіўся ў самага сьмелага з "слухачоў" пра наяўнасьць бацькоў ці знаёмых у міліцыі. Пасьля прамовы пачаліся пагрозы завесьці ў пастарунак, выклікаць машыну ці дакласьці пра ўсё бацьком. Міліцыянты так і не пачулі нічога крыўднага ў адказ, бо ахвотніка атрымаць па сківіцы не знайшлося.

У гэты момант із школы выйшла настаўніца расейскае мовы — адна з арганізатарак мерапрыемства. Пры размове зь ёй міліцыянт хуценька зьмяніў стыль мовы з гутарковага на афіцыйна-дзелавы. Празь некалькі хвілін настаўніца прапанавала ўсім разысьціся, а міліцыянтам засталося толькі шукаць сабе іншых парушальнікаў парадку. Але сапсаваны настрой узьняць так не атрымалася, таму навучэнцы хутка разышліся ў розных накірунках.

А ў беларускай міліцыі так і засталіся дзьве спрадвечныя праблемы: апазыцыя і піратэхніка.

# [ВОЛЬНЫЯ Т@NЦЫ]™ Ў ГОРАДНІ

**Музычны праект "Вольныя Танцы" сабраў у суботу, 16 сьнежня, у Палацы хімікаў менш за палову залы. Наўрад ці варта было чакаць аншлагу, бо арганізатары запрасілі чатыры абсалютна разнапланавыя гурты.**



Малады трэшавы беларускамоўны "Твар", "Кальян", які змяніў свой імідж і выглядаў на тле былых рэгаліяў бездапаможна, старую добрую рок-нрольную "Краму" ды "Нейро Дюбель".

А пачалося ўсё з так званай гарачай тэлефоннай лініі, якая мелася адбыцца (ды і ўрэшце адбылася) у рэдакцыі "ПАГОНІ". Гурты не здолелі на яе з'явіцца. Адзін з арганізатараў канцэрта, Віталь Супрановіч, у апраўданне выдумаў дэтэктыўную гісторыю з затрыманнем міліцыяй машынаў, што везлі ўдзельнікаў гуртоў. Усё аказалася прасцей: музыкі проста фізічна не здолелі прыехаць у прызначаны час з Берасьця, дзе напярэдадні давалі канцэрт. За што публічна прынеслі чытачам "ПАГОНІ" прабачэнні.

А жывая лінія ўсё ж адбылася. Усе пытанні, якія задалі лідарам "Крамы" і "Нейро Дюбеля" чытачы з дапамогай тэлефона і пейджара, былі накіраваныя па адрасу. Ігар Варашкевіч і Аляксандр Кулінковіч ахвотна на іх адказалі.

*(працяг на 12-й ст.)*

**Ігар Варашкевіч, лідар "Крамы"**

- Баюся пакрыўдзіць Горадню, але ў Берасьці быў лепшы канцэрт, як гэта і не дзіўна. Мы думалі, што будзе наадварот. Там была поўная зала і трошкі лепшая атмасфера. А тут, ад хлопцаў, што стаялі ля сцэны і "тащились", ішла нейкая негатыўная энергетыка. Мне было досыць цяжка. Тыя людзі, якія прыйшлі на "Краму", сядзелі там, дзе я іх не бачыў. Разумееш, я не меў з імі кантакту.



**Аляксандр Кулінковіч, "Нейро Дюбель"**

- Мы ж таксама лысыя, але гэта не азначае, што мы "скіны". Навошта лезці на сцэну і псаваць канцэрт? Не крыўдуй, але ў Берасьці быў лепшы канцэрт адназначна. Там такая самая зала, нават крэслы і праходы аднолькавыя. Але яна была поўная. Прычым там наогул не было рэкламы. Праўда, гады два таму, мы ў Берасьці ўжо выступалі, таму нас ведаюць.







С.Антусевіч

# Жыве OTPOR!

Кожны з нас ведае пра падзеньне рэжыму Мілошавіча ў Сэрбіі. Шмат хто чуў пра арганізацыю "OTPOR!", якая спрычынілася да гэтага. Калі нехта думае, што вось, маўляў, якія гэтыя сэрбы малайцы – выйшлі ў патрэбны момант на вуліцы і Мілошавіч зыйшоў, то гэта не зусім так. Людзей на гэтыя вуліцы выводзіў рух, імя якому "OTPOR!". Зразумела, што ў хуткім часе аналітыкі, палітолягі, гісторыкі зробяць высновы, і паставяць усе кропкі над "і".

А пачалося ўсе з кастрычніку 1998 году, калі чацьвёра актывістаў на акцыі заскандавалі "Жыве OTPOR!" кульмінацыяй ўсяго сталіся падзеі чэрвеня 2000 году, калі дзесяткі мільёнаў людзей у 123 месцах Сэрбіі выйшлі на вуліцы пад лёзунгамі " ZIVI OTPOR!" і "GOTOV JE!"

"OTPOR!" рух, у якім няма старшыні, намесьнікаў, Рады ці нейкага іншага выканаўчага воргана, але ёсць вельмі добра сплянаваныя і зразумелыя ўсім акцыі , якія далі ў выніку падзенне дыктатуры Мілошавіча. Але са зьменай улады гісторыя арганізацыі працягваецца.

Так ідзе кампанія "МЫ ЗА ВАМІ НАЗІРАЕМ", сымбалем якой стаў багер (бульдозер) (гл. уверсе).

Ідзе актыўная агітацыйная кампанія. Жыве OTPOR!









# «К» і «НД» адмыслова для гарадзенцаў

## Крама пайшла на фронт

***- Апошнія пяць гадоў «Крама» працягвае спяваць свае старыя хіты, нічога вартага новага амаль не створана. Якую шыльдачку вы павесілі б на дзвярах «Крамы»: «Усе пайшлі на фронт» ці «Прыём тавару»?***

Ігар Варашкевіч:

- Калі выбіраць з двух надпісаў, дык, напэўна, - «Пайшлі на фронт». У прынцыпе, мне абрыдла адказваць на гэтае пытанне - усё у нас нармальна. Уся праблема ў грошах, каб запісаць новую песню. Гурт існуе, музыкі нармальныя, мы працуем.

## Паўтары бутэлькі Аляксандра Кулінковіча

***- Ты часта распранаешся на сцэне, нават узімку. Не халадно?***

А.К.:

- На сцэне ніколі не халадна. Клаус, налі мне гарэлачкі. *(Лідар «Нейро Дюбеля» звяртаецца да гукаапэратара «Крамы» і мы чакаем, пакуль Кулінковіч вып'е з пластмассавага кілішка налітую гарэлку, зап'е «Фантай» і запаліць цыгарэту).*

## Прэзідэнцкі тур

***- Ці будуць «Крама» і «Нейро Дюбель» удзельнічаць у музычным прэзідэнцкім туры, калі такі будзе, у падтрымку адзінага кандыдата ад апазіцыі?***

І.В.:

- Я думаю, можа, і будзем. Ездзілі ж мы ў той раз.

А.К.:

- Усімі сіламі будзем змагацца. Я нават свае ўваходныя дзверы планую распісаць пад гэтыя мэты.

## Пераехала камбайнам

***- Алесь, ці нясуць тэксты «Дюбеля» нейкі сэнс?***

А.К.:

- Не, нашыя тэксты не маюць аніякага сэнсу. Як у чукчаў, што бачу, тое і пяю. Толькі ў «Нейро Дюбеля» - што адчуваю, тое і спяваю. Праўда, адчуваць можна рознае.

Свае тэксты я пішу ўсюды і ўвесь час, нават у тралейбусе. Напрыклад, «Переехало комбайном» пісалася чатыры гады.

***- У сувязі з гэтым ёсць пытанне. Ці плануеш напісаць «Переехало комбайном» па-беларуску?***

А.К.:

- А што, гэта будзе прыгожа? «Пе-ра-еха-ла ка-мба-йнам» *(Кулінковіч пачынае прагаворваць тэкст песні на беларускі манер).* А, хаця? Дарэчы, пра мову. Я нармальна размаўляю па-беларуску. Усе ведаюць, што песні «НД» ад душы, а калі мы пачнем спяваць па-беларуску, кожны скажа - гэта не шчыра.

Я вельмі паважаю лозунг «Жыве Беларусь!». Але я не хачу яго крычаць там, дзе гэта не патрэбна і не да месца. Я ведаю шмат людзей, якія размаўляюць па-беларуску, але прададуць Беларусь у імгненне вока і прычым вельмі танна.

Я быў вельмі шчаслівы, калі аднойчы пачуў, што «Нейро Дюбель» - адзін з самых нацыянальных беларускіх рок-гуртоў.

## Пра піва

***- Ігар, колькі піва выпівае «Крама»?***

І.В.:

- Зараз мала. Мы пілі шмат піва, калі мелі рэпетыцыі на піўзаводзе. А ўзімку я піва не люблю. Цяпер я п'ю гарэлку, віно. Не напоі гэтыя, што зробленыя, каб загубіць нацыю. Ёсць партвейны розныя ў памеры - 1,5-2 тысячы.

## Кулінковіч не любіць Земфіру і амерыканцаў

***- Чаму лідар «Нейро Дюбель» не любіць Земфіру?***

А.К.:

- А адкуль ты ведаеш, што я не люблю Земфіру? У нас неяк у Менску быў канцэрт у адзін дзень з Земфірай. Гэта была вялікая памылка, бо нават крутыя расейскія зоркі не робяць канцэрты ў адзін дзень з Земфірай.

Але мы здолелі сабраць цэлую залу. Нашыя знаёмыя журналісты казалі: «Хлопцы, вы зрабілі цуд!» Я, хутчэй за ўсё, маю рацыю. Земфіра няшчырая. У расейскім шоу-бізнесе пра яе добра не гавораць. Яна нахабная, а я нахабных не трываю.

***- А чым табе амерыканцы не да спадобы?***

А.К.:

- Гэта злачынная нацыя. Няўжо ты гэтага не бачыш? Мяне вельмі ўражвае, калі кажуць: «Ах, вы не любіце амерыканцаў! Вы, напэўна, з БПСМ ці Луку любіце?» Гэта ж неабавязкова, каб вораг майго ворага быў маім сябрам.

***Павал Мажэйка***
***Алеся Сідлярэвіч***

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА НЕПЭРЫЯДЫЧНЫМ ВЫДАНЬНЕМ. НАКЛАД 299 АСОБНІКАЎ.
АДРАС ДЛЯ КАНТАКТАЎ: 230003, ГОРАДНЯ-3, А/С 110.ТЭЛ.72-11-83; ФАКС:76-29-73;
E-MAIL: BUNT.HRODNA@USA.NET;MPAVAL@YAHOO.COM
АДКАЗНЫ ЗА ВЫПУСК:ПАВАЛ МАЖЭЙКА
ВЕСЬНІК ВЫДАЕЦЦА ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ ГАГА «РАТУША» І МІЦ ( МЕНСК )